**Цана 80 мк.**

Год I. Вільня, 17 сьнежня 1922 г. № 11.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Наваградзкай земляў.

| | | |
|---|---|---|
| Цана нумару 80 марак. Газэтка каштуе з паштоваю перасылкаю, ў месяц 400 марак. Без паштовай перасылкі ў месяц 320 марак. | Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618. Рэдакцыя адчынена ад 11—2 і 4—5 г. | Абвесткі: Цэлая старонка . . . . . 30.000 мк. ½ старонкі . . . . . . 15.000 „ ¼ „ . . . . . . 8.000 „ Дробныя абвесткі. . . па 300 „ за радок. |

*Кіраўнік Рэдакцыі:* ЛЮДЗЬВІК ХОМІНСКІ. *Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, Ф. Галавач, С. Бальлін, В. Шакун, Я. Драздовіч, А. Шапель.*



# ШТО РОБІЦЦА Ў ВАРШАВЕ.

„Пясты“ Вітоса выбіраюць эндэцкага маршалка Сэнату, а эндэкі пястоуца маршалкам Сойму.

### Начальнік Дзяржавы Язэп Пілсудскі не пазваляе сябе выбіраць нанава.

9 сьнежня Народ выбірае Прэзыдэнта Польшчы (Начальніка Дзяржавы) кандыдата „Вызваленьня“ ГАБРЫЕЛЯ НАРУТОВІЧА. 11-га сьнежня эндэкі праліваюць работніцкую кроу у Варшаве, б'юць паслоу лявіцы і дэмонструюць проці Прэзыдэнта Нарутовіча.

16 сьнежня **ПРЭЗЫДЭНТА НАРУТОВІЧА ЗАБІУ** эндэк Невядомскі.

20 сьнежня новыя выбары Прэзыдэнта.

Найважнейшая справа, якая жалобай запоўніла ўсю Польшчу гэта тое, што эндэк забіў Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі, Габрыеля Нарутовіча, легальна выбранага большасьцю Сойму й Сэнату па прапазыцыі „Вызваленьня“. Гэткім чынам правіца пачала рэвальверамі барацьбу з народнай Польшчаю. Каб зразумець усю важнасьць гэтага гадкага забойства трэба коратка апісаць, што рабілася ў працягу апошніх двох тыдняў.

### Выбар маршалкау. Каханьне „Пяста“ і правіцы.

Дык было гэтак! 1-XII Сойм і Сэнат павінны былі выбраць сваіх маршалкаў, або старшыняў. Хаця ўся польская лявіца мае больш за правіцу галасоў, але „Пяст“ Вітоса лічыў за лепшае пайсьці з правіцаю рука ў руку і на аснове умовы даў гэтулькі сваіх галасоў за маршалка Сэнату Тромпчынскага, які быў правіцовым маршалкам ранейшага Устаноўчага Сойму, што той адтрымаў 56 галасоў з агульнага ліку 106 паданых галасоў. Часьць „Пяста“ падала белыя картачкі, а часьць проста галасавала за гэтага эндэка.

Праз пару гадзін пасьля „Пясту“ заплаціла правіцовая „Chjena“ і выбрала разам з „Пястам“ вітосоўца Ратая за маршалка Сойму проці галасоў усяе лявіцы. Уся лявіца галасавала за пасла „Вызваленьня“ Сьмяроўскага, вельмі вядо-

маго адваката, які быў-бы надта добрым маршалкам. Але ён адтрымаў толькі 177 галасоў, тады як пястовец Ратай адтрымаў 218 галасоў і стаў маршалкам. „Пяст“ мае 68 галасоў, а „Chjena“ 168, разам 236, але некалькіх паслоў ня было, а некалькі падало белыя картачкі. Усе найчарнейшыя абшарнікі падалі галасы за „Пяста“—аб гэтым трэба памятаць.

## Начальнік Пілсудскі пакінуў сваю пасаду.

Тытул „Начальніка Дзяржавы“ скасованы быў Конституцыяй (аснаўное права) 17 сакавіка 1922 г., прынятаю Устаноўчым Соймам. Ад часу новага Сойму Начальнік Дзяржавы будзе называцца **Прэзыдэнтам Польскае Рэспублікі** (таксама, як у Францыі, Амэрыцы і іншых краёх). Гэткі Прэзыдэнт выбіраецца на кожныя 7 гадоў гэтак названым **Нацыянальным Сабраньнем**, гэта значыць злучаным сходам Сойму і Сэнату, ці йначай — Прэзыдэнта выбіраюць 444 паслы Сойму і 111 сэнатараў, разам 555 асобаў.

У гэтым Нацыянальным Сабраньні была-б большасьць лявіцы проці эндэкаў, калі-б „Пяст“ чэсна йшоў з лявіцаю, з прадстаўнікамі Народу. Але „Пяст“ круціць направа, як гэта відаць з выбару Маршалкаў Сойму і Сэнату, калі лічыў за лепшае ісьці з правіцаю.

Вось-жа ў гэтых варунках Начальнік Пілсудскі не хацеў быць выбраным, бо ведаў, што калі будзе Прэзыдэнтам Польшчы, а „Пяст“ пойдзе з эндэкамі, як ужо відаць мае замер, — дык Народ будзе думаць, што кіруе Пілсудскі, бо зьяўляецца Прэзыдэнтам, а ён са свайго становішча толькі будзе магчы пазіраць, як гэта „Пяст“ здраджвае народ з правіцаю і грунтуе ў Польшчы панскую ўладу, а нічога ня зможа зрабіць проці гэтага, бо Конституцыя не пазваляе Прэзыдэнту кіраваць, а толькі прадстаўляць найвышэйшую ўладу Польшчы.

Дык Начальнік Пілсудскі сабраў прадстаўнікоў лявіцы і „Пяста“ і сказаў ім, што не пазваляе выстаўляць свае кандыдатуры, што ня прыме выбару ў гэткіх варунках і што радзіць выбраць чалавека, які не належыць ні да якой партыі ды патрапіць належна прадстаўляць Польшчу і ў краі і за граніцаю. Хай гэта будзе чалавек спакойны, разважны і разумны.

## Выбары новага Прэзыдэнта.

„Вызваленьне“ вельмі засумавала і чула вялікі жаль, што Начальнік Дзяржавы Пілсудскі не пазваляе сябе выбіраць, бо мы хацелі, каб ён далей вёў Польшчу да лепшае будучыны. Але перад воляй Начальніка трэ было папусьціца і пашукаць іншага кандыдата.

Правіца выставіла кандыдатуру графа Замойскага, польскага посла ў Парыжы, які мае каля паўмільёна маргоў зямлі аж у 5-х паветах, а са сваімі сялянамі судзіцца за ўсялякае глупства, даволі таго, што мае ў адным толькі судзе 17.000 (сямнаццаць тысячаў) судных справаў проці сэрвітутаў на яго абшарах.

А лявіца нізашто не магла пагадзіцца на аднаго кандыдата.

Мы казалі, што трэба слухаць Камэнданта Пілсудскага і выбраць чалавека лявіцы, добрага шчырага дэмакрата, які не належаў-бы а ні да якой партыі, каб нікому ня было зайздросна. Гэткім чалавекам быў **Габрыель Нарутовіч**, міністар заграінчных справаў, профэсар, вельмі слаўны ў Польшчы і за граніцаю чалавек, пражыўшы доўгія гады ў Швайцарыі, а пасьля быўшы добрым міністрам у Польшчы 2 гады. Чалавек гэта лявіцовы, шчыры дэмократ, чэсны ў кожнай мэце, разумеўшы добра, што у Польшчы не абшары, не правіца, ня эндэцыя, але лад і парадак, што ў Польшчы мусіць панаваць народ. Але „Пяст“ не згадзіўся і выставіў свайго кандыдата, сябра свае партыі, Вайцяхоўскага, які сапраўды быў некалі соцыялістым, але пасьля гэтак пайшоў направа, што як міністар урадаваў з Падарэўскім, страшэнна душыў забастоўкі земляробаў і настолькі абніжыў сябе, што мог увайсьці ў „Пяст“ дзеля кар'еры.

Пачалося галасаваньне. Усе непалякі ў Сойме: Беларусы, Жыды, Украінцы, Немцы, падалі галасы за аднаго профэсара паляка, Бодуэна, але калі ён адтрымаў не даволі галасоў, дык тады, баючыся выбару графа Замойскага, аддалі свае галасы за нашага кандыдата Нарутовіча.

Таксама й соцыялістыя муселі галасаваць за іншых кандыдатаў, калі іх кандыдат Дашынскі адпаў пры галасаваньні.

Засталося тры кандыдаты: Замойскі правіцы, Нарутовіч наш, Вайцяхоўскі «Пяста»—тады пры чацьвёртым галасаваньні Замойскі адтрымаў 224 галасы, Нарутовіч 171, а Вайцяхоўскі 146. Таму што Вайцяхоўскі меў найменш — дык паводлуг права — апошняе пятае галасаваньне павінна было рашыць, хто будзе выбраны за Прэзыдэнта: граф Замойскі, ці Нарутовіч.

Правіца была пэўнаю, бо за яе галасавала часьць немцаў і, як гаварылі пасьля, Вітос даклараваў ёй даць свае галасы ды хацела купіць таксама галасы іншых няпольскіх паслоў, толькі тыя адмовіліся. Але паслы „Пяста“ спалохаліся нашага „Вызваленьня“, бо зразумелі, што ня змогуць вярнуцца на вёску, калі ім выкажам, што іх галасамі прайшоў у Прэзыдэнты найбольшы ў Польшчы абшарнік граф Замойскі.

Дык падзяліліся. Часьць паслоў дала белыя картачкі (белых картачак набралася 29),

а большая часьць мусела галасаваць за кандыдата „Вызваленьня“—Нарутовіча.

Гэткім чынам Нарутовіч быў выбраны 289 галасамі, а граф Замойскі адтрымаў толькі 227 і прапаў.

Праўна і легальна, гэткім чынам, Прэзыдэнтам Польскае Рэспублікі стаў, п. Габрыель Нарутовіч. Гэтак „Вызваленьне“ здабыло над'-звычайную перамогу, правёўшы на найвышэйшае становішча ў Дзяржаве кандыдата працоўнага народу.

## Авантуры правіцы.

Тады на правай старане загуло, як ў вульлі. Яны верылі што іх кандыдат, гэты найбольшы ў Польшчы абшарнік, граф Замойскі сапраўды будзе прэзыдэнтам Польшчы на аснове умовы з Вітосам.

Нейкі час шукалі прычэпкі—і хутка знайшлі яе. Прыпомнілі сабе, што апрача польскае лявіцы, якая мае больш як правіца галасоў у Сойме і ў Сэнаце, за Нарутовіча галасавалі таксама й непалякі. Пачаўся гвалт. „Што гэта за прэзыдэнт, за якога галасавалі таксама Беларусы і Украінцы, што гэта за прэзыдэнт, за якога галасавалі навет Жыды?“ — пачало паўтарацца ў эндэцкіх прамовах і артыкулах.

Чаму гэтыя паны, якія за пару гадзін перад тым зьвярталіся да Украінцаў і Беларусаў, прапануючы, каб тыя галасавалі за графа Замойскага й дэкляруючы ім за гэта зараз-жа адмяніць колёнізацыю, а Немцам і Жыдом дэклярукючы школы — чаму гэтыя паны эндэкі тады ня стыдаліся купляць галасы дзеля свайго графа?

Але-ж усе гэтыя нацыянальнасьці адказалі, што ў Польшчы хочуць жыць пабожаму і ня хочуць свайго лёсу зьвязваць з правіцаю, бо ведаюць, што правіца ў Польшчы хутка скончыцца, бо ведаюць, што яны, сялянскія народы, толькі з польскаю лявіцаю, а ня з польскаю правіцаю могуць разам існці.

Чаму эндэцкая правіца не рабіла гвалту, калі падгаварыла жыдоў да галасаваньня за маршалка Тромпчынскага у старым Устаноўчым Сойме, калі яго выратавалі толькі жыдоўскія галасы. Чаму тады не гаварылі, што Тромпчынскі (вядомы эндэк) гэта — „жыдоўскі парабак“. А гэта-ж за графа Замойскага таксама галасавала палова Немцаў.

Стыдна й ганебна, што вучоныя людзі гэтак страшэнна маняць. Сорам што ўцягваюць народ у згубу.

Ужо ў суботу ўвечары 9. XII, зараз-жа па выбары прэзыдэнта Нарутовіча, гэнэрал Галер, які зьяўляецца цяпер пасдом ад „Chjeny“ сказаў прамову да натаўпу аб тым, што „Польшчу спаневяралі“, як пішуць аб гэтым газэты і гавараў „барэцеся да рэшты“ — з кім? Ну, ведама з польскаю лявіцаю, з прадстаўнікамі сялян і рабочых. А ад'ютант гэнэрала дадаў: зброя ужо ёсьць. На каго думаеце?

Сабраная эндэцкая моладзь, добра аплачаная слухала эндэцкіх аратараў, бушавала ўжо ў нядзелю, а ў панядзелак пачала рабіць крывавыя авантуры.

## Прысяга Прэзыдэнта.

Паводлуг Констытуцыі новавыбраны Прэзыдэнт павінен зрабіць прысягу перад „Нацыянальным Сабраньнем“ (Сойм і Сэнат разам), што будзе сьцерагчы Констытуцыю і законы і ўсе свае сілы аддасьць Польшчы.

Дык эндэкі пастанавілі перашкодзіць гэтаму. Сабралі купу моладзі — на сорам людзкі на чале са студэнтамі ў шапках і загарадзілі ўваход у Сойм. Як толькі пазнавалі аднаго пасла лявіцы, селяніна, або рабочага, альбо соцыялістага ці народніка інтэлігэнта, дык кідаліся на яго і пачыналі яго біць. Гэтак пакрывавілі і зьбілі да няпрытомнасьці пасла Пятроўскага з П. П. С. і некалькі іншых, патурбавалі нашага пасла Адамовіча і Гэльмана, а навет некалькі сялян з „Пяста“.

А калі Прэзыдэнт Нарутовіч ехаў на прысягу ў Сойм, дык загарадзілі яму дарогу і абкідалі яго воз сьнегам ды кідалі палкамі.

Але Прэзыдэнт не спалохаўся, прыбыў ў Сойм і зложыў прысягу сярод апплёдысмэнтаў і падзякаў, бо быў гэта чэсны і непалахлівы чалавек. Правіца ўцякла з паседжаньня — і ня выслухала прысягі, гэтак шкада ёй было свайго графа.

Ямчэ ўвечары па нашым трэбаваньні быў выкінены за бязчыннасьць міністар унутраных справаў Каменскі за тое, што ня ўмеў абараніць паслоў лявіцы і Прэзыдэнта ад нападу з боку эндэцкіх хуліганаў.

Ад панядзелку да суботы на вуліцах было спакойна. Презыдэнт Нарутовіч прыняў ад Начальніка ўладу і пасяліўся ў Бэльвэдэры. Начальнік Пілсудскі, аддаючы яму ключы, сказаў, што ён, Пілсудскі, зьяўляецца адзіным польскім афіцэрам, які ямчэ ніколі ні прад кім не стаяў „на бачнасьць“, але, што цяпер становіцца „на бачнасьць“ перад Польшчаю, якую прадстаўляе Нарутовіч, як найвышэйшы вураднік, як Прэзыдэнт Дзяржавы.

Прэ гэтых словах сам Камэндант Пілсудскі стаў перад Прэзыдэнтам Нарутовічам „на бачнасьць“, як афіцэр перад гэнэралам, каб паказаць, што Нарутовіч зьяўляецца выбранцам народу, што зьяўляецца сьвятасьцяй, якая прадстаўляе Польшчу і якое кожны павінен слухацца.

Гэта было ў чацьвер. У пятніцу Прэзыдэнт Нарутовіч прымау старшыняў клюбаў і калі пераканаўся, што Вітос заўсёды круціць і ня хоча выразна сказаць, што ня йдзе а ні лявіцай, а ні з правіцай — назначыў урад у два тыдні, пад кіраўніцтвам п. Л. Дароўскага, дасюлешняга міністра працы і грамадзкай апекі.

## Забойства Прэзыдэнта.

Назаўтра, ў суботу Прэзыдэнт выехаў у горад, каб аддаць візыт арцыбіскупу кардыналу Какоўскаму, хаця яго й асьцерагалі, што эндэкі рыхтуюць замах на яго жыцьцё і хоць адтрымліваў шмат непадпісаных пісьмаў з пагрозамі.

Дзеля таго, што быў запрошаны на адкрыцьце новае выстаўкі абразоў, а на ўсім сьвеце гэткія ўрачыстасьці адчыняе Прэзыдэнт Дзяржавы, дык вяртаючыся ад арцыбіскупа — заехаў туды і Прэзыдэнт Нарутовіч.

Як толькі ўвайшоў у салю, дзе віселі розныя прыгожа намалёваныя абразы і прывітаўся з ангельскім паслом і міністрамі—падыйшоў да яго паціху вядомы эндэк, мастак Невядомскі і ў часе калі Прэзыдэнт аглядаў на сьцяне абраз—выстраліў да яго ззаду тры разы проста ў плечы і палажыў трупам на месцы.

Ніякі ратунак ужо не памог-бы, бо тры кулі прабілі грудзі і сэрца.

Забойца энцэк Невядомскі арыштаваны адразу. Тлумачыўся на сьледстве, што забіў народнага Прэзыдэнта словамі, прачытанымі ўва ўсіх правіцовых газэтах, эндэцкіх, якія заклікалі да праліцьця „ракі крыві“ на тое, каб... каб правіца, а не лявіца магла правіць у Польшчы.

Вось да чаго давялі найпадлейшыя зводнікі і брахуны правіцы, — вось да чаго дайшло.

## Што значыць забойства Нарутовіча?

Значыць тое, што правіца хоча абавязкова панаваць у Польшчы, значыць тое, што арганізуе гэтак званы паітальянску „фашызм“, альбо папростаму баёўкі, з падмогаю якіх хоча павыбіваць ўсю лявіцу і дэмократыю, хоча панаваньня графоў і абшарнікаў — хочаць задушыць у Польшчы волю. А сеючы яд і атруту ў душы дэморалізуе яе да тае ступені, што моладзь і старшыя людзі фанатыкі хватаюцца за палкі і рэвальвэры, ганячы імя Польшчы на шмат гадоў. Бо гэта першы раз за 2 тысячы гадоў, што Галава Дзяржавы забіты быў у Польшчы.

Тыя самыя людзі, як душагуб Невядомскі, якія гадамі зносілі чужацкі гнёт маскоўскі, альбо прускі, якія паслухняна ласавалі руку і лізалі боты чужых наезьнікаў сьмеюць паднімаць руку на легальнага прадстаўніка ўлады Бацькаўшчыны.

А гэта таму, што маскалёў баяліся, а сваіх не баяцца. А гэта таму, што чужыцы не адбіралі ад іх двароў, што раней за усё гнялі селяніна й рабочых ды шкадавалі абшарнікаў і капіталістых.

Цяпер вось, калі просты народ ад плуга і сахі ды рабочыя з фабрыкаў даходзяць да голасу — дык яны стараюцца павярнуць жыцьцё назад і адабраць ад народу яго правы, зьнішчыць абапёрты на дэмократычным галасаваньні Сойм і завесьці свае ўрады.

Але ім гэта ня удасца. Народ вялік і дуж і ня дасьць адабраць сабе правы. Народ хоча спакою і справядлівасьці. Народ хоча пашанаваньня права.

Народ хоча, каб мог жыць вольна, як чалавек, дык павінен арганізоўвацца і лічыць свае сілы гатовымі, бо іначай будзе блага. Калі правіца далей будзе біць і забіваць, дык тады гукнём да вас: Народзе! ідзі на абарону сваіх правоў, а рука твая будзе цяжкаю і справядлівaю!“

Тымчасам арганізуйцеся ў „Вызваленьні“ і будзьце гатовы.

## Новы урад.

Па законе, калі Прэзыдэнт паміраe, альбо зракаецца, дык яго замяшчае маршалак Сойму.

Праз пару гадзін пасьля забойства маршалак Ратай назначыў новы часовы ўрад на чале з гэнэралам Сікорскім начальнікам гэнэральнага штабу. Гэн. Сікорскі гэта малады і энэргічны чалавек, добры павадыр і арганізатар. Сам ня кажа, ці да правіцы, ці да лявіцы належыць, але ручаецца, што спакой увядзе зараз-жа. У той-жа дзень арыштована некалькі ваенных, якія рабілі прыгатаўленьні для правіцы.

## Маршалак Пілсудскі.

Але ёсьць добрая вестка. Адмовіўшыся кандыдаваць на найважнейшае становішча, Язэп Пілсудскі ваенны маршалак (гэта знач. больш як гэнэрал) меўся прыехаць на адпачынак са сваей жонкаю і дзяцьмі ў Вільню. Але бачачы небясьпеку, згадзіўся адразу на службу для Бацькаўшчыны і стаў начальнікам гэнэральнага штабу, г. знач. прыняў вайсковую пасаду пасьля гэн. Сікорскага, а пасада гэта найважнейшая ў арміі ў спакойны час. Гэта для нас вялікае шчасьце, што Маршалак Пілсудскі, далей будзе працаваць для народу і для Польшчы на гэтак важнай пасадзе.

Рэдактар-Выдавец Казімер Сакалоўскі. Друкарня „Люкс“, Вільня.